

№ 9 (170)
Сакавік 2007 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:






***Шаноўныя насельнікі Мінска і Оршы!***
***Віншуем з 940-годдзем упамінання вашых гарадоў у летапісах!***

***Як пазначана ў іх, 3 сакавіка 1067 года адбылася на нашай зямлі чарговая грандыёзная вайна, у якой тагачасныя насельнікі Полацкай зямлі адстойвалі сваю незалежнасць і ў выніку чаго асабліва пацярпелі Менск і Ворша.***

***Будзем жа вартныя сваіх продкаў, трымацца сумленнасці, годнасці, любові да Радзімы і адстойваць яе правы на жыццё і развіццё!***

**Ад рэдакцыі.** Згодна летапісных сцвярджэнняў, бітва на рацэ Нямізе адбылася 3 сакавіка 1067 года. Князі з поўдня (Ізяслаў, Святаслаў, Усевалад Яраслававічы) прыйшлі з войскам у Полацкую зямлю, каб пакараць сваяка, полацкага князя Усяслава Брачыслававіча за тое, што апошні захапіў і разрабаваў Вялікі Ноўгарад, зажадаў яшчэ больш умацаваць Полацкую зямлю. У выніку бітвы Усяслаў пацярпеў паражэнне. Быў захоплены тагачасны Менск. Мірныя перамовы князёў-супернікаў да згоды не прывялі; падманным чынам (праз парушэнне цалавання крыжа) Усяслаў быў запалонены, вывезены ў Кіеў і на восем месяцаў засаджаны ў падземную турму. Пасля яго вызваліў кіеўскі люд і запатрабаваў абраць вялікім князем кіеўскім. Але не надоўга. Сам Усяслаў адмовіўся ад вялікай улады, збег у родны Полацк.

Як лічаць даследчыкі, верагодна, у 1185–1187 гады (гэта значыць, прыкладна 820 гадоў таму) было створана (можа, і намаганнямі нашага Кірылы Тураўскага) «Слова пра паход Ігаравы» («Слова аб палку Ігаравым»), дзе ёсць і раздзелы, прысвечаныя ранейшай палітыка-дзяржаўнай дзейнасці Полацкага княства на чале з вядомым Усяславам Чарадзеем. Першы поўны пераклад на беларускую мову (празаічны ў 1919-м і вершаваны ў 1921-м) зрабіў у няпросты час Янка Купала. Пасля яго яшчэ нямала хто з беларускіх пісьменнікаў намагаўся па-свойму перакласці гэты твор. У апошнія гады да іх далучылася і вядомая паэтэса з Гомеля Ніна Шклярава, выпускніца Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны, былая настаўніца, аўтар шматлікіх перакладаў з рускай і украінскай моў.

*Увазе нашых чытачоў прапануем на стар. 4 урывак са «Слова...» у яе перакладзе.*

## Да 125-годдзя Янкі Купалы і Якуба Коласа

Пытанні падрыхтоўкі і правядзення мерапрыемстваў, прысвечаных 125-годдзю з дня нараджэння народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа, абмеркаваны на пасяджэнні арганізацыйнага камітэта ў Савеце Міністраў пад старшынствам намесніка прэм'ер-міністра Беларусі Аляксандра Косінца. Як паведаміла БелТА, мерапрыемствы, прысвечаныя юбілейным датам беларускіх класікаў, зацверджаныя Указам Прэзідэнта ад 29 студзеня 2007 года № 57, пройдуць па ўсёй рэспубліцы. Цэнтральным месцам правядзення стануць Маладзечанскі, Стаўбцоўскі раёны, горад Мінск.

### На тым тыдні

● 24 лютага ў мінскім Доме афіцэраў адбылася сустрэча ветэранаў, сучасных салдат і афіцэраў Узброеных Сіл Беларусі, армейцаў-літаратараў з супрацоўнікамі Коласавага музея. М. Далідовіч і І. Курбека расказалі пра новыя факты з жыцця і творчасці песняра і пра новую экспазіцыю, прысвечаную яму ў музеі. Доктар тэхнічных навук Міхась Міцкевіч падзяліўся ўспамінамі пра бацьку як пра сем'яніна, прачытаў урыўкі з яго твораў.

Пасля адказу на пытанні супрацоўнікаў музея чакала прыемная нечаканасць: адна са слухачак падарыла музею арыгінал ліста, які даслаў ёй, маладой навучэнцы, будучаму ўрачу, Якуб Колас у адказ на яе ліст з вершамі.

● На пачатку мінулага тыдня ў навучэнцаў Рэспубліканскага музычнага каледжа пабывалі намеснік галоўнага рэдактара «КГ» Генрых Далідовіч. Яго запрасілі выступіць на тэму «Яркія гістарычныя падзеі Беларусі ў творах беларускай літаратуры». Выступоўца засяродзіў увагу будучых музыкантаў на лёсаносных адпаведных падзеях і на іх адлюстраванні ў беларускіх летапісах, у творах дакументальнай і мастацкай літаратуры з XVI стагоддзя па сённяшні дзень. Асобна ішла гаворка (і праз пытанні ўдзельнікаў вечарыны) пра гістарызм у творах Я. Купалы і Я. Коласа як пра тэму, што яшчэ не зусім поўна і глыбока даследавана ў нашым літаратуразнаўстве.

У заключэнне адбыўся невялікі канцэрт, дадзены навучэнцамі музычнага каледжа.

● 27 лютага ў філіяле Музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры «Гасцёўня Галубка» адкрыта выстава «Майстры сцэны», прысвечаная 75-годдзю дзейнасці Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага.

***Вера ў свае сілы і жаданне жыць для іншых – гэта велізарная сіла***

*Ф. Дастаеўскі*

***Шаноўны «ЛіМ»!***

*Віншуем усіх супрацоўнікаў і аўтараў з 75-гадовым юбілеем штотыднёвіка! Жадаем падтрымліваць і развіваць лепшыя традыцыі выдання, належна адлюстроўваць усе разнастайныя бакі духоўнага жыцця Рэспублікі Беларусь, годна трымаць сцяг нацыянальнай культуры!*

ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

*«Краязнаўчая газета»*





*Беларускія лясы... Непаўторныя па сваёй красе гаі і дубровы. Колькі цудоўных вершаў і апавяданняў, легендаў і паданняў прысвяцілі вам людзі за сваю шматвяковую гісторыю. Не адзін раз мы ў марах пераносімся туды, дзе нават ясным днём з-за густых вершалінаў амаль не відаць сонца, дзе шуміць-перагаворваецца адвечны бор ды аб нечым глуха і жаласліва стогнуць-плачуць замшэлыя дрэвы...*

*З даўніх часоў людзі лічылі лес сваім сябрам. Ён карміў, апранаў, саграваў, абараняў іх, даваў святло, здароўе, натхненне. Любую радасць яны дзялілі з ім.*

# Шуміць стогадовы дуб

Даследчыкі ў галіне розных навук сцвярджаюць: калі ў акіяне зарадзілася жыццё, то ў лесе развіваліся яго вышэйшыя формы. Лес спачатку быў калыскай чалавецтва, а потым стаў яго домам. Шанаванне дрэваў было своеасаблівым рытуалам маленняў, звернутых да вегетатыўнай магічнай сілы прыроды. Свет у цэлым уяўляўся старажытнаму чалавеку адушаўлёным, і дрэвы, вядома, не былі выключэннем. Наш продак верыў у тое, што яны маюць душу, валодаюць пачуццямі, як і людзі, у цяжкую хвіліну абавязкова дапамогуць. Па гэтай прычыне ён пакланяўся ім, надаваў розныя цудадзейныя ўласцівасці. Вядомы беларускі пісьменнік Ул. Караткевіч у апавяданні «Кніганошы» так вызначыў ролю лясоў: «У сасновым лесе – маліцца, у бярозавым – любіцца, у дубовым – волю каваць, у яловым – душу д'яблу прадаваць».

Падрыхтоўка да рубкі адушаўлёнага дрэва нагадвала хутчэй падрыхтоўку да складанай хірургічнай аперацыі вясковага знахара, чым звычайную працу дрывасека. Бо людзі думалі, што калі правесці папярэднюю работу без належнай пашаны і традыцыйных дзеянняў, то дрэва можа вельмі жорстка і бязлітасна расправіцца з тымі, хто яго пакрыўдзіў: забіць, разарваць, знявечыць, напалохаць да смерці і г.д. Калі ж на дол валіцца дуб, то ён так крычыць і стогне, што гэтыя своеасаблівыя праклянцці разносяцца далёка па наваколлі. Гэтак жаласліва плача і развітваецца з белым светам жывы дух дрэва.

Вядомы этнограф А. Багдановіч прыводзіць прыклад веры насельніцтва былога Ігуменскага павета ў тое, што ёсць такія дрэвы, якія нельга секчы: як не сцеражыся, а яно цябе прыдушыць. У раёне Барысава быў некалі ссечаны дуб, які самотна стаяў на паляне, «старажытны дуб» вельмі вялікіх памераў. Калі яго ссеклі, то, падаючы, ён раздушыў усіх, хто яго сек, і, акрамя таго, цэлы тыдзень пасля лютавала бура з маланкамі, якая прынесла многа гора. А раней, калі дуб стаяў, то з кожным, хто яго секане, абавязкова здаралася няшчасце. Не раілі таксама беларусы секчы дрэва, якое скрыпіць, бо гэта пэўная прыкмета, што ў дрэве пакутуе чалавечая душа: чалавек, які ссек такое дрэва, прымушае яе шукаць сабе новы прытулак, за што ён можа паплаціцца калецтвам, а калі і сваім жыццём.

Людзей, якія адважваліся нават сарваць лісток са свяшчэннага дрэва, садраць кару, чакала суровая кара. Вось як апісваў такое пакаранне ў старажытнай Германіі Дж. Фрэзер: «Злачынцу выразалі пупок і прыбівалі яго да той часціны дрэва, якую ён абадраў (проста жывога, а не свяшчэннага дрэва. – **А.Н.**); затым яго вадзілі вакол дрэва да таго часу, пакуль кішкі цалкам не намотваліся на ствол. Пакаранне гэта было накіравана на тое, каб замяніць засохлую кару дрэва жывой тканкай злачынца».

На тэрыторыі Беларусі, па сцвярджэнні беларускай даследчыцы А. Ленсу, «перажыткі пакланення дрэвам існавалі да канца XIX – пачатку XX стст.».

Старажытныя беларусы лічылі, што нібыта ў купальскую ноч дрэвы пераходзяць з аднаго месца на другое і размаўляюць паміж сабой. Ці, напрыклад, калі прыйшоў у лес па дровы і тры першыя дрэвы не спадабаліся, тады не сячы лясін увогуле ў той дзень, бо здарыцца нейкае гора. Існавала паданне, што рабіна можа непрыкметна і нячутна для людзей лячыць іх. Хто яе зломіць ці ссячэ, той у хуткім часе памрэ сам ці ў яго доме будзе нябожчык. Нашы далёкія продкі свята верылі ў цудадзейную сілу трэсачкі дуба, у які ўдарыла маланка, – калі яе прыкласці да хворага зуба, то боль адразу ж пройдзе.

Дуб... Магутны лясны волат... Яму пакланяліся, яго лічылі свяшчэнным, у ім бачылі пасланца багоў на зямлі.

У сувязі з гэтым успамінаецца, як дзядуля ў час касьбы, калі мы адпачывалі пад купкай магутных дубоў, доўга глядзеў на шурпаты, таўшчэзны ствол аднаго з іх, потым устаў, падышоў да маўклівага волата і, задраўшы галаву, некалькі хвілін уважліва пазіраў на густую вершаліну дрэва. Прысеўшы ля мяне, некаторы час маўчаў, мабыць, збіраўся з думкамі і, нарэшце, сумна ўсміхнуўшыся, пачаў гаварыць. Высветлілася, што прыкладна паўстагоддзя таму на месцы сенакосу была непралазная багна і толькі на выспах там-сям уздымалі свае гордыя галовы асілкі-дубы. Яны ціха пагойдвалі галлём ды спакойна аглядалі наваколле, і здавалася, строга сачылі за парадкам у адведзеных ім прыродай абшарах. Мой дзядуля, тады яшчэ падлетак, касіў са сваім бацькам амаль што на гэтым самым месцы, толькі па другі бок узгорка, дзе было вышэй. Калі яны селі абедаць пад гэтымі ж дубамі, то малады касец пачаў скардзіцца, што ён вельмі стаміўся і ў яго не хопіць сіл да канца дня. Бацька ўважліва выслухаў сына і параіў: «А ты падыдзі і дакраніся да самага магутнага дуба, табе адразу ж дабавіцца сілы».

***Паводле кнігі Аляксея НЕНАДАЎЦА «Святло таямнічага вогнішча»***

***(Заканчэнне будзе)***



Стары дуб на могілках ля вёскі Бабровічы Івацэвіцкага раёна

*Фота Ігара ГРЭЧКІ*



# Памерлыя сораму не маюць...

**(Працяг. Пачатак у № 8)**

**Як было.** Самалёт М. Гастэлы з вялікім крэнам на левае крыло сутыкаецца з зямлёй. Па інерцыі цераз штурманскую кабіну, якую адразу ж змяло пасля ўдару аб зямлю, самалёт пачынае пераварочвацца на спіну, але ў гэты час адбываецца выбух... Правы ацалелы рухавік адрываецца і адлятае па прамой, прыкладна метраў на 30, палаючы левы рухавік ад выбуху праходзіць праз кабіну камандзіра і прызямляецца за 35 метраў ад самалёта, прасоўваецца яшчэ метраў на 5, дагарае. Кабіна стралка-радыста, якую падчас выбуху адкінула метраў на 40 паміж двума рухавікамі, ад удару аб зямлю разбіваецца і з яе падкідвае ўгару лётчыка. З гэтай кабіны пазней Сяргей Аксіновіч, жыхар в. Мярковічы, здыме рацыю. Выкінутае цела лётчыка павісае на лямках парашута на дрэве. Ад ботаў да пояса ў яго было ўсё абгарэлае. На трэці дзень жыхары в. Мярковічы, якія пахавалі гэтага лётчыка, бачылі, што вакол былі раскіданы паперы, сярод якіх і быў знойдзены ліст Скарабагатага. Падчас палёту ў гэтай кабіне павінна было быць двое, на зямлі застаўся адзін. Непадалёк ад згарэлага рухавіка Андрэй Баўтрымовіч з в. Мярковічы знайшоў пакарабачаны пісталет «ТТ», але выкінуў тут жа ў багну. Праз месяц-два, пасля таго, як прайшлі дажджы, гар змыла са згарэлага матора і сярод яго рэшткаў былі бачны чалавечыя косці. Яны маглі быць толькі капітана Гастэлы, паколькі, як нам ужо вядома, палаючы левы рухавік ад выбуху прайшоў праз кабіну камандзіра. Штурманская кабіна першая сустрэлася з зямлёй і калі б там заставаўся да апошняга А. Бурдзенюк, ён павінен быў быць ў гэтай яме, але ў 1965 г. падчас пошуковых работ не было знойдзена ніякіх прыкмет чалавека. Там была знойдзена поўная абойма ад пісталета і пагнуты аэрафотаздымачны апарат з кавалкам засвечанай стужкі. У сярэдняй яме, ад камандзірскай кабіны, былі знойдзены: датчык хуткасці, балон са сціснутым паветрам для запуску рухавіка, абрывак карты выдання 1940 г. (раён Сувалак).



*М. Гастэла, камандзір эскадрыльі 207-га дальнебамбардзіровачнага авіяпалка*

**Пошукі.** 14 ліпеня 1968 г. жыхар в. Мярковічы Мікалай Паўлавіч Дуброўскі (дзед Дзмітрыя Дуброўскага) дапамог адшукаць у лесе магілу Скарабагатага, а таксама знайшоў медальён. Заключэнне МУС Беларусі паведамляе: «Рукапісны тэкст не праглядваецца, толькі чарнільная кропка ў графе прозвішча».



*А. Маслаў, камандзір эскадрыллі 207-га дальнебамбардзіровачнага авіяпалка*

Падчас перапахавання ў 1996 г. былі знойдзены ключы, больш падобныя як ад сейфа, а таксама вугалок дакумента з друкаваным тэкстам: «месца фотаздымка» і аплата ўзносаў за «верасень, кастрычнік, лістапад». Асноўная частка дакументаў, відаць, засталася ў фрагменце лётнай курткі, перапахаванай у 1970 г. разам з прахам у в. Бяларучы.

У жніўні 2006 г. пошукавым батальёнам Міністэрства абароны Беларусі пад кіраўніцтвам археолага В.Д. Таміліна праводзіліся дасканалыя даследаванні месца падзення самалёта і пахавання лётчыкаў. За два тыдні пошукавых работ была знойдзена бірка ад рухавіка тыпу М-87Б № 873441 завода № 29 імя П.І. Баранава. На месцы падзення кабіны стралка-радыста быў знойдзены пісталет выпуску 1930 г. за № УН 3978. На месцы былога пахавання: афіцэрская спражка і мацаванне ад эмблемы «птушка».

Такім чынам, можна лічыць даказаным: на зямлі застаўся ляжаць Скарабагаты, каля матора і разам з ім згарэў Гастэла. А дзе ж тады Калінін і Бурдзенюк – астатнія члены экіпажа? Усё добра тлумачыцца ўспамінамі жыхара в. Мацкі, у той час 16-гадовага падлетка, Аляксандра Міканоравіча Агейчыка. Яго хата знаходзілася за 20 метраў ад дарогі. Ён са сваім бацькам быў у самым цэнтры падзей.

**(Працяг на стар. 8)**





*Кароткі слоўнік*
# краязнаўча-прававой тэрміналогіі
*беларускай старажытнасці*



***(Пачатак у № 3 за 2005 г.)***

**УНІЯ** (ад позналац. еднасць) – а) адна з форм аб'яднання, саюза феадальных ці буржуазных дзяржаў. Былі *асабістыя* (тут і далей выдзеленыя словы тлумачыліся ў «КГ») і рэальныя (аб'яднанне дзяржаў з утварэннем адзіных вышэйшых органаў улады і кіравання, адзінай грашовай сістэмы, з адзінай арміяй і заканадаўствам). Своеасаблівым узорам уніі з'явілася аб'яднанне ВКЛ і Польшчы ў федэратыўную Рэч Паспалітую пад уладай аднаго манарха і з агульным заканадаўчым органам (*сеймам*), аднак без агульных выканаўча-распарадчых органаў; кожная дзяржава мела свае фінансы, армію, сваё заканадаўства (паводле Люблінскай уніі 1569 г.). Апошняя, заключаная ў цяжкі для ВКЛ час пасля знясільваючых агрэсій Рускай дзяржавы была заключана са значнымі саступкамі Польшчы. Пазней у ВКЛ была моцная апазіцыя гэтай уніі; б) унія царкоўная – аб'яднанне праваслаўнай і каталіцкай цэркваў на ўмовах прызнання праваслаўнай царквой вяршэнства папы рымскага з захаваннем сваіх абрадаў і богаслужэння на роднай мове (Брэсцкая унія 1596 г.).

**УРАД** – служба, кіраўнічы аппарат у ВКЛ. Урады былі земскія (дзяржаўныя), прыдворныя, судовыя, прыватнаўласніцкія. Мелі ў сваім складзе пэўны штат службоўцаў (ураднікаў), якія непасрэдна выконвалі функцыі дзяржаўнага і гаспадарчага кіравання ў двары і маёнтках вялікага князя, у ваяводствах, паветах, маёнтках магнатаў і інш. У Статутах ВКЛ тэрмін «урад» выкарыстоўваецца таксама ў сэнсе суда.

**УРАДНІК** (асоба ўрадавая) – службовец ва ўрадах ВКЛ. Статут 1588 г. адрозніваўураднікаў земскіх (дзяржаўных) і прыдворных. Пасады земскіх ураднікаў маглі быць цэнтральныя і мясцовыя, адміністрацыйныя і судовыя. Цэнтральныя ўраднікі: *маршалак земскі*, *гетман найвышэйшы* і *польны, канцлер, падканцлер, падскарбі земскі*. Мясцовыя ўраднікі: *ваявода, кашталян, староста, маршалак павятовы, стольнік, падстолі, харунжы, чашнік, падчашы, мечнік, войскі, гараднічы* і інш. Некаторыя пасады мясцовых земскіх ураднікаў з'яўляліся ганаровымі, а пасады ваяводаў, кашталянаў і старосты жмудскага давалі доступ у Раду ВКЛ. Да судовых ураднікаў адносіліся *маршалак* і *дэпутаты* Трыбунала ВКЛ, *падкаморы, суддзя, падсудак і пісар замкавага суда, а таксама возны, каморнік*. Прыдворнымі ўраднікамі былі *маршалак дворны, падскарбі дворны, лоўчы, канюшы, кухмістр, крайчы, возны* і інш. У асобных выпадках ураднікі надзяляліся і пабочнымі функцыямі. Яны вызначаліся вялікім князем, ваяводамі і старостамі з выбраных кандыдатаў. Як правіла, земскімі ўраднікамі маглі быць толькі шляхціцы. Яны маглі выконваць дзяржаўныя даручэнні пажыццёва або да пераходу на больш высокую пасаду. Паводле Статута, не дазвалялася займаць адразу некалькі значных пасад, але былі і выключэнні для буйных дзяржаўных дзеячаў. У гарадах ураднікамі былі *войты, радцы, лаўнікі* і *бурмістры*. Парадак заняцця пасад у гарадах рэгуляваўся магдэбургскім правам. Статут прадугледжваў павышаную адказнасць за злачынствы супраць ураднікаў пры выкананні імі службовых абавязкаў.

# «Берастравіччына мая, Берастравіца!
## Да болю любы і радзімы край...»

***Так цёпла і пранікнёна пісаў пра родную зямлю мясцовы паэт Мікола Барэль. У гэтых радках – пяшчотная прачуласць, глыбокая пашана, вялікая сыноўняя любоў да сваіх родных мясцін, бацькоўскага кута, матчынай зямлі.***

***Такім куточкам для многіх з'яўляецца Берастравіччына. Ці шумяць над ёю летнія лівні, ці кружыць снежная завіруха, ці ляціць над палеткамі жураўліны клін, ці ў бела-ружовай квецені купаюцца сады – яна заўсёды чароўная і непаўторная.***

***На Берастравіччыне не было сусветна вядомых падзей. Тым не менш, наш край мае сваю слаўную гісторыю. Знойдзеныя археолагамі каля вёскі Малыя Ёдкавічы рэчы сведчаць, што людзі тут жылі да нашай эры. Ужо тады яны ўмелі выраблялі посуд, апрацоўваць крэмень, рабіць каменныя прылады працы. Ганчарнае рамяство атрымала сваё далейшае развіццё ў XI–XII стагоддзях. Аб гэтым сведчаць раскопкі на Верхаўлянскім свяцілішчы, якое з'яўляецца помнікам язычніцкага культу.***




Летась Вялікая Берастравіца адзначала сваё 500-годдзе. Дакладней кажучы, 500 гадоў са дня першага ўпамінку ў гістарычных дакументах. Але і на месцы Вялікай Берастравіцы жыццё пачалося на некалькі стагоддзяў раней, чым аб гэтым сведчаць пісьмовыя дакументы, вядомыя сучаснікам.

*У легендзе, якую любяць расказваць у Вялікай Берастравіцы ўсім прыезджым, гаворыцца, што шмат стагоддзяў таму ў далёкія, яшчэ язычніцкія часы гэтае месца абралі для пасялення юнак і дзяўчына, якіх звалі Бераст і Тавіца. Яны вельмі кахалі адзін аднаго, але Бераст быў сынам багатага правадыра племені, а Тавіца –з беднай сям'і. Таму ім прыйшлося пакінуць бацькоўскае жытло і доўга бадзяжнічаць па лясах, а потым плыць на плыце па рэчцы, пакуль яны не прысталі да гэтага месца. Падплылі да берага на досвітку, знайшлі на пагорку ўтульнае месцейка, перакусілі, чым бог паслаў, ды й задрамалі. А калі прачнуліся, дык раніца светлая навокал праменні рассыпала, а ў траве кропелькі расы блішчаць, нібы ад вогнішча хтосьці вугольчыкі раскідаў. А пад пагоркам рэчка ўецца, а ў ёй буйная рыба плешчацца. Даспадобы прыйшлася гэтая мясціна закаханым, вырашылі яны тут застацца назусім. Жыллё змайстравалі, дзетак нарадзілі, пажанілі іх. І стала гэтае месца называцца Бераст-Тавіца, Берастравіца.*

У Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі знаходзяцца ганчарныя вырабы, бранзалеты, завушніцы, якія знойдзены на тэрыторыі Берастравіцы і адносяцца да XI–XII стагоддзяў. Але так ужо агульнапрынята, што ўзрост гарадоў і вёсак адлічваецца ад часу іх першага ўпамінку ў гістарычных дакументах.

З тых пісьмовых крыніц, што вядомы сёння даследчыкам, упершыню ўпамінаецца Берастравіца з навакольнымі вёскамі ў 1506 годзе.

На карце Вялікага княства Літоўскага 1613 года Берастравіца пазначана ўжо як мястэчка, якое знаходзіцца на перакрыжаванні важнейшых тагачасных гандлёвых шляхоў.

Як сцвярджаюць хронікі, у 1615 годзе ў мястэчку па фундацыі Гераніма Хадкевіча пабудаваны касцёл, які быў асвечаны ў імя Найсвятой Дзевы Марыі. У пачатку 1800-х гадоў пры касцёле была адкрыта парафіяльная школа. Як адзначаў ураджэнец Віленшчыны даследчык П.В. Баброўскі (1832–1905), гэта была першая школа такога тыпу на Гродзеншчыне.

Часта наведваў наша мястэчка знакаміты прадстаўнік роду Хадкевічаў, праслаўлены военачальнік свайго часу, вялікі гетман Вялікага княства Літоўскага, герой вайны Рэчы Паспалітай са шведамі Ян Караль Хадкевіч. Ён у 1621 годзе разграміў і войска Асманскай імперыі ў бітве пад Хоцінам (цяпер Украіна) і гэтым выратаваў Заходнюю Еўропу ад асманскага нашэсця і распаўсюджвання на хрысціянскіх землях ісламу, за што атрымаў падзяку ад папы рымскага. Сэрца Я.К. Хадкевіча, згодна яго тэстаменту, знайшло сваё супакаенне ў сямейным пантэоне Хадкевічаў у касцёле Найсвятой Дзевы Марыі.

У 1754 годзе Вялікай Берастравіцы было нададзена магдэбургскае права, а разам з ім герб з выявай ваверкі і адпаведныя льготы для жыхароў мястэчка.

Берастравіччына, як і ўся Беларусь, спрадвеку была арэнай крывавых канфліктаў, жорсткага супрацьстаяння паміж Усходам і Захадам.




*Палац Касакоўскіх у Вялікай Берастравіцы (з паштоўкі пач. XX ст.)*

Так было і ў час вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй у 1600–1629 гадах (бітва каля Малой Берастравіцы), і ў час вайны Расіі са Швецыяй (бой каля в. Краснае), і ў расійска-польскія войны. Жорсткі бой адбыўся ў Вялікай Берастравіцы 19 верасня 1794 года паміж вайсковымі падраздзяленнямі царскай арміі і паўстанцамі Тадэвуша Касцюшкі, у якім загінула больш за 200 чалавек. У ім прымаў удзел і камандзір экскадрона гусараў, маёр, князь Пётр Баграціён. Той самы Баграціён, што камандаваў 2-й рускай арміяй у 1812 годзе ў вайне з французамі і штаб якога стаяў на пачатку вайны ў Ваўкавыску.

У 1863 годзе паўстанне Кастуся Каліноўскага таксама захапіла Вялікую Берастравіцу. Сам К. Каліноўскі нарадзіўся ў в. Мастаўляны Беластоцкага ваяводства, каля 10 км ад Берастравіцы, у дзяцінстве неаднаразова бываў у Вялікай Берастравіцы на яе славутых кірмашах. А ў пачатку 1860-х гадоў у нашым мястэчку ў Каліноўскага былі патаемныя сустрэчы са сваімі аднадумцамі – каморнікам, паэтам Феліксам Ражанскім і настаяцелем касцёла Найсвятой Дзевы Марыі ксяндзом Ігнаціем Казлоўскім. Менавіта яны разам з іншымі дапамагалі Каліноўскаму арганізоўваць выданне і распаўсюджванне першай беларускай рэвалюцыйнай газеты «Мужыцкая праўда». Некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, што яе першыя нумары друкаваліся ў Вялікай Берастравіцы ў скляпеннях таго самага касцёла. Нездарма ж Віленская следчая камісія па справах паўстанцаў, а потым і ваенна-палявы суд завочна прыгаварылі Ігнація Казлоўскага і Фелікса Ражанскага да смяротнага пакарання.



*Прыбудова ў сядзібе у в. М. Берастравіца*

Праходзілі тут жорсткія баі і ў час вайны з Напалеонам і ў Першую сусветную вайну. У верасні 1920 года часці Чырвонай Арміі, пасля паражэння пад Варшавай, вымушаны былі адступаць. Чатыры дні (20–23.09) ішлі баі пад Берастравіцай паміж чырвонаармейцамі і польскімі легіянерамі. У іх з абодвух бакоў удзельнічала некалькі пяхотных дывізій, артылерыя, кавалерыя і нават авіяцыя. Сотні загінулых, тысячы пакалечаных... Сярод іх дзесяткі ні ў чым не вінаватых мірных жыхароў...

Крыжы, абеліскі, памятныя знакі на кожным раздарожжы, ля кожнага гасцінца. Асабліва іх прыбавілася пасля Вялікай Айчыннай вайны. Мясцовая вёска Верхаўляны паўтарыла жахлівы лёс Хатыні. Подзвіг партызанкі Вольгі Соламавай, якая цаной жыцця выратавала сваіх таварышаў, апеты ў песнях і вершах. Такіх прыкладаў вельмі многа. Над Берастравіччынай, як і над усёй Белай Руссю, як піша паэтка, і насіўся вятрыска:

*Падзелы, нашэсці, вайна,*
*грабяжы...*
*На ўсіх раздарожжах крыжы,*
*абеліскі,*
*І не адзін патрыёт там ляжыць...*

Многа навукоўцаў і творцаў звязаныя лёсам з Вялікай Берастравіцай і Берастравіччынай. Гэтая зямля паіла гаючай крынічнай вадой і натхняла да навуковых і творчых пошукаў акадэміка Пецярбургскай імператарскай акадэміі навук Восіпа Кавалеўскага, пісьменніка, актыўнага ўдзельніка паўстання 1830–1831 гадоў Леана Патоцкага, кампазітара Станіслава Манюшку, які пераапрацоўваў оперу «Галька» ў маёнтку сваёй сястры на Берастравіччыне. Тут пэўны час жыў і запісваў гаворку мясцовых жыхароў будучы акадэмік Яўхім Карскі, напісаў шэраг палотнаў і зрабіў шмат графічных малюнкаў вядомы беларускі і польскі мастак і кампазітар Напалеон Орда, з Берастравіччынай звязаны карані вядомага вучонага-астранома, літаратара Марціна Пачобута-Адляніцкага.

***Гэтыя гістарычныя постаці, якія добра вядомы і за межамі Беларусі, вельмі хораша, шчыра, задушэўна і ўзнёсла апявае берастравіцкая паэтэса Галіна Жывіца. І напаўняецца сэрца пяшчотай і гонарам не толькі за Берастравіччыну, але і за нашу Бацькаўшчыну – Беларусь.***

***Мікалай ПАЦЭНКА,***
***рэдактар-складальнік кнігі «Памяць. Берастравіцкі раён»***





## *Урывак з*
# «Слова пра паход Ігаравы»

*Коней дабыў Усяслаў*
*Нечакана.*
*Кіеў наведаў,*
*А ўжо апаўночы*
*Прама ў Белгорад*
*Ён рыссю ўскочыў.*

*Можа, кавалкі тры добрых –*
*Удачы*
*Выхапіў ён тут*
*Без енку і плачу.*
*І Наўгароду*
*Адкрыў ён вароты,*
*Славу разбіў*
*Яраславага роду.*

*Скочыў ваўком*
*Да Нямігі убок,*
*Дзьмухнуў на раць,*
*Як вятрыска на ток,*
*Выслаў Нямігу*
*Снапамі з галоў*
*Цэп малаціць харалужны*
*Гатоў:*
*Славу і чэсць,*
*Пераборлівы лёс...*
*Душы ўсе вецер*
*Панёс да нябёс.*

*Костачкі рускія каля ракі*
*Пазасяваны цяпер навякі.*
*Князь Усяслаў*
*Людзям суд свой тварыў:*
*Многім князям*
*Гарады падарыў,*
*Сам дзікім воўкам блукаў*
*Па начах*
*Хорса вялікага меціў ён шлях...*

*З Кіева гойсаў*
*Да Тмутаракані*
*І ўжо назад павяртаўся*
*Уранні.*
*Полацк званіў яму,*
*Рэха кругом...*
*Князь ужо ў Кіеве слухаў яго.*

*Звон той сцякаў па душы,*
*Як сляза.*
*Вешчы Баян*
*Так пра князя сказаў:*

*Эх, ні разумніку,*
*Ні хітруну*
*Божае кары не прамінуць!*

*Рускай зямлі гараваць*
*Яшчэ доўга*
*І ўспамінаць адгалоскі*
*Былога.*

***Пераклад Ніны ШКЛЯРАВАЙ,** г. Гомель*

## У залах народнай славы

Ужо дванаццаты год у г.п. Акцябрскі, што на Гомельшчыне, працуе музей народнай славы. Да гэтага экспазіцыя размяшчалася ў невялічкім доме. Месца не хапала, было вельмі нязручна. Цяпер дырэктар музея Алена Фёдараўна Гарбар, навуковыя супрацоўнікі Алена Чаславаўна Шастак, Марыя Сільвестраўна Базылік і захавальніца фондаў Антаніна Іванаўна Адзінец пра тыя часы амаль не ўзгадваюць. Ды і навошта, калі экспанаты размяшчаюцца на двух паверхах у шасці прасторных, прыгожа аформленых залах Цэнтра гісторыі і культуры – новым будынку.

Так, у зале «Зямля нашых продкаў» знаходзіцца макет маёнтка XVIII стагоддзя роду Лапаў. Як расказала Антаніна Іванаўна, будынак стаяў сярод маляўнічага парку. Цяпер пад шатамі старых дрэў праходзіць рэспубліканскі фестываль фальклорнага мастацтва «Берагіня». А яшчэ ў гэтай зале да 500-годдзя Рудабелкі (так называлася вёска, а пасля аб'яднання ў 1954 годзе з Карпілаўкай і Рудняй – г.п. Акцябрскі) адбываецца мерапрыемства «Праз далячынь стагоддзяў». Размешчана тут і выява радавога дрэва Лапаў. У зале «Рудабелка – край партызанскі» можна азнаёміцца з дзейнасцю атрада «Чырвоны Кастрычнік». А на другім паверсе знаходзіцца своеасаблівая «Беларуская хата». Тут, напрыклад, і незвычайная печ, і жорны, і нацыянальнае адзенне калінкавіцкага строю.

Цікава ў прасторных і прыгожа аформленых залах рудабельскага музея народнай славы, пабудаваных, як сказалі яго супрацоўнікі, на народныя грошы...

***Ігар ГРЭЧКА***



***На фота аўтара:***
***будынак Цэнтра гісторыі і культуры (уверсе), макет маёнтка***

## *У тэатры «Зьніч»*

Сакавіцкая афіша Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра «Зьніч» пачынаецца **5 сакавіка** спектаклем **«Мой Маленькі прынц»** паводле казачнай аповесці Антуана Сент-Экзюперы, якую пераклала Ніна Мацяш. Артыстка Алена Шапко ўслед за знакамітым пісьменнікам прапануе зазірнуць у патаемныя глыбіні сваёй душы і, разам з гэтым, адкрыць таямніцы сусвету... Пачнецца спектакль а 19-й гадзіне.

Гэтую ж пастаноўку – **«Мой Маленькі прынц»** – змогуць пабачыць віцебскія гледачы ў памяшканні Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа ў рамках абменных гастроляў. Гэтая акцыя праводзіцца да святкавання 80-годдзя тэатра. **15 сакавіка** А. Шапко тройчы выйдзе на коласаўскую сцэну – а 10-й, а 12-й і а 14-й гадзіне.

Дзве пастаноўкі пройдуць **19 сакавіка**. **Удзень** маленькіх гледачоў запросяць у тэатральную залу мінскага Чырвонага касцёла, дзе «Зьніч» ладзіць большасць сваіх пастановак, на лялечны спектакль «Пра ката Сафрона і пеўніка Андрона» паводле п'есы Л. Мікіты. Выканаўца – Леанід Сідарэвіч.

**Увечары** заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Уладзімір Шэлестаў пакажа сваё бачанне свету твораў Ф. Дастаеўскага. Ён выканае монаспектакль **«Кроткая»** паводле аднайменнай аповесці ў перакладзе Андрэя Каляды. У творы герой і апраўдвае, і абвінавачвае сябе і яе, сваю каханую...

*Дадатковую інфармацыю можна атрымаць па тэлефонах 231-75-53, 615-26-79, 615-28-99.*

# Быў беларускім дзеячам у Варшаве

## *Да 100-годдзя з дня нараджэння Пятра Ластаўкі*

***13 траўня 1956 года адбыўся арганізацыйны з'езд Варшаўскага аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ), які выбраў праўленне аддзела і прыняў пастановы, якія вызначалі напрамак сваёй дзейнасці. На пасяджэнні аддзела старшынёю быў абраны Юры Туронак, а сябрам прэзідыума галоўнага праўлення (ГП) БГКТ – Пятро Ластаўка, які да самай смерці актыўна працаваў на карысць беларускай справы ў Польшчы.***

Але беларускімі справамі Пятро Ластаўка захапіўся яшчэ тады, калі яму было толькі 14 гадоў, распаўсюджваючы нелегальныя адозвы, кніжкі, газеты. Ён нарадзіўся 16 лютага 1907 года на Дзісеншчыне ў беднай беларускай сялянскай сям'і. Вельмі рана застаўся без бацькоў, таму яшчэ хлопчыкам зведаў нялёгкую фізічную працу парабка і пастуха.

Калі яму споўнілася 19 гадоў, уступіў у рады Беларускай сялянска-работніцкай грамады і стаў самым актыўным яе сябрам на Дзісеншчыне. За гэтую дзейнасць маладога Ластаўку польскія ўлады арыштоўваюць і садзяць за краты ў горадзе Глыбокае, а пасля перавозяць у Вільню. Праз год Пятра адпускаюць, але яго жыццё і дзейнасць кантралюе паліцыя.

У канцы 1920-х гадоў Пятра Ластаўку забіраюць у польскае войска. Адбыўшы вайсковую павіннасць, ён зноў вяртаецца ў родную вёску і працягвае беларускія справы. Паліцыя строга кантралюе дзейнасць беларускага хлопца. Тады ён вырашае пакінуць родныя мясціны і едзе ў Варшаву, дзе яго чакаюць новыя праблемы і выпрабаванні.

Найважнейшым выпрабаваннем у вялікім горадзе быў пошук працы. Але з цягам часу праца знайшлася і дабавілася грамадская дзейнасць. Пятро Ластаўка знаёміцца з многімі беларусамі Варшавы, а пасля арганізуе асветнае таварыства беларусаў у Варшаве. Вакол гэтага тавырыства ён аб'ядноўвае многіх землякоў, якія жылі ў польскай сталіцы. Гэтае таварыства дзейнічала да пачатку вайны, а Пятро Ластаўка быў яго самаахвярным кіраўніком, які аддаваў усе свае сілы і веды таварыству і сябрам.

Калі пачалася вайна, Пятро Ластаўка пакінуў Варшаву і пераехаў жыць у Забалацце Белападляскай гміны, але сувязі з сябрамі-беларусамі не губляў. Ды і там ён праводзіў розныя цікавыя імпрэзы, сустрэчы.

Калі скончылася вайна, Пятро Ластаўка вярнуўся ў Варшаву і жыў у Мілянуўцы. Ён па-ранейшаму не пакідае беларускія справы, а наадварот, яшчэ актыўней уключаецца ў працу Варшаўскага аддзела БГКТ. Доўгі час з'яўляецца сябрам яго праўлення, а пазней і сябрам Прэзідыума ГП БГКТ. А калі БГКТ мела права займацца гаспадарчай дзейнасцю, то Ластаўка становіцца дырэктарам прамысловага прадпрыемства «Бэтэска» і кіруе ім ажно пяць гадоў.

Пятро Ластаўка быў яшчэ заўзятым калекцыянерам, кнігалюбам, займаўся публіцыстыкай. Юры Туронак згадвае, што пасля яго смерці, «у 1968 годзе мне пашанцавала купіць усю яго калекцыю – блізу 20 беларускіх кніг, выдадзеных у ваенны час у Берліне, Варшаве і Менску» (Юры Туронак. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня, 2006. С. 324).

Пры жыцці Пятро Ластаўка вельмі цікавіўся лёсам варшаўскіх беларусаў. Мне прыемна згадваць сёння гэтага чалавека і таму, што ён добра ведаў і шчыра сябраваў у Варшаве з маім земляком, паэтам Гальяшом Леўчыкам са Слоніма[1]. Асабліва спадара Ластаўку цікавіў лёс паэта пасля 1944 года. Ён праводзіў розныя пошукі сярод жыхароў Варшавы і пытаўся: ці хто ведаў і бачыў Гальяша Леўчыка? І, дарэчы, шмат цікавых фактаў знайшоў. 10 лютага 1967 года Пятро Ластаўка звярнуўся нават у ЗША да Яна Пятроўскага з просьбаю напісаць успаміны пра духоўнае жыццё Леўчыка. Ластаўка пісаў Пятроўскаму: «Пішу ўспаміны пра Гальяша Ляўковіча. І дзеля гэтага хацеў бы прыгадаць варшаўскі час такім, якім ён быў у сапраўднасці. Хіба вы не ведаеце, што Леўчык ужо не жыве. Ён памёр у верасні 1944 года на атаку печані ў цяжкіх абставінах, бо не было ніадкуль ніякае помачы... У наступным лісце перашлю Вам болей звестак пра апошні час жыцця і смерць Ляўковіча» (Ян Пятроўскі. Мэмуары. Слуцак–Гэйнсвіль, 1988. С. 161). Далей у пісьме Яну Пятроўскаму Ластаўка пісаў, што ён ужо два гады як цяжка хварэе. «У маім далейшым лісце да Ластаўкі, – згадваў далей у сваіх "Мэмуарах" Ян Пятроўскі, – ад 24 чэрвеня 1968 года я пытаўся, як ён маецца і яшчэ раз прасіў падаць мне звесткі, якія адносяцца да апошніх дзён Ляўковіча. Але на гэты мой ліст я ніколі ўжо не атрымаў адказу».

Ян Пятроўскі звяртаўся з просьбаю і да сына Пятра Ластаўкі, але адказу больш ад сям'і Ластаўкаў ніколі не атрымаў. Відаць, яго дзяцей беларускія справы і лёсы беларусаў ужо не цікавілі. Тым больш, што 19 верасня 1968 года беларускага дзеяча ў Варшаве не стала. А сёлета 16 лютага яму споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння.

***Сяргей ЧЫГРЫН***

[1]Г. Леўчык першы, хто прысвяціў адзін са сваіх вершаў Я. Купалу.




***На здымку (злева направа): Пятро Ластаўка, Сяргей Паўловіч, Мікалай Дварэцкі.***
***1936 год. Фота друкуецца ўпершыню***

# 2007: Год Слова Купалы і Коласа





(Працяг. Пачатак у №№ 3–8)

## «...Завуся я толькі – Янка Купала»

*Я не для вас, паны, о не,*
*Падняць скібіну слова рвуся*
*На запусцелым дзірване*
*Сваёй старонкі Беларусі.*
*(«Я не для вас...»)*

**1905–1907 гады**

Гэты перыяд у жыцці і творчасці Янкі Купалы быў вельмі важны і адказны: трэба было літаральна, як рыбе аб лёд, біцца, каб выжыць матэрыяльна самому і сям'і, а таксама сцвердзіцца як паэту. Годам раней, у 1904-м, пасля лёсавызначальных сустрэч з маладымі беларускімі рэвалюцыйнымі дзеячамі (А. Бурбіс, браты Луцкевічы і інш.), з публіцыстам Ул. Самойлам, які працаваў у газеце «Северо-Западный край» і паспрыяў там маладому паэту 15 мая 1905-га надрукаваць верш «Мужык», а потым і з пісьменнікам Ядвігіным Ш., які яшчэ больш абазначыў яму ролю ў беларускай літаратуры XIX ст. В. Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча, памочнік арандатара, чорнарабочы, памочнік вінакура Іван Луцэвіч вырашае ўжо цвёрда: паэзію не пакіне і будзе пісаць па-беларуску! Дзеля гэтага, мабыць, таксама падштурхнулі і глыбокія ўражанні ды перажыванні, што паўздзейнічалі на яго пасля расстрэлу ў студзені 1905-га мірнай дэманстрацыі пецярбургскіх рабочых і сталіся актам жудаснага вандалізму царызму. Рэжым сам выклікаў агонь на сябе: у знак пратэсту адбыліся масавыя палітычныя стачкі больш чым у 60 гарадах Расіі, у тым ліку і ў, здавалася б, зацішных, надзейных для імперыі Мінску, Гомелі, Магілёве, Бабруйску і інш. Бываючы ў многіх прымінскіх мястэчках і вёсках, Купала не мог не бачыць, што падняў галаву і яго герой – беларускі селянін, якіх тады называлі «мужыкамі», падаў голас з-за свайго малазямелля і прыніжэння, што выявілася ў сялянскіх высечках лесу, падпале многіх памешчыцкіх маёнткаў розных паветаў. Зразумела, Я. Купала намерыўся выкарыстаць гэтыя сельскія хваляванні не столькі як рэвалюцыянер, а як грамадзянін і паэт. Але і гэта не засцеражэ яго ад пільнаганазірку паліцыі. У выдадзеным у 2003 г. 9-м томе (кніга другая) Поўнага збору твораў песняра прыведзены факты сведчання даследчыкаў-краязнаўцаў, што не раз перад носам у паліцыі ён уцякаў ад тых людзей, з якімі мог сустрэцца, пагаварыць шчыра і якіх мог пазнаёміць са сваімі новымі, у тым ліку і бунтоўнымі вершамі. Каб не прынесці небяспекі гаспадарам.

(Працяг будзе)



Я. Купала ў 1904 г.

## З сям'і лесніка...

Тыя, хто жыў у лесе ці паблізу яго, пасвойму ўспрымалі не толькі яго адмысловыя пахі ў розныя поры года, неспакой, шум у ветранае надвор'е, цішыню і белізну ўзімку, але ўвогуле раслінны і жывёльны свет, сваё месца ў ім. Безумоўна, гэта найперш адчувалася ў лесніковых сем'ях, таксама і ў тых, хто меў працу з дрэвам.

Сёння цяжка нават уявіць, ці была б менавіта такой «Новая зямля» Якуба Коласа, каб ён змоладу не зведаў веліч, хараство, таямніцу, а бывала, і маркоту лесу!.. Як вядома, ён нарадзіўся ў сям'і лесніка ў засценку Акінчыцы (цяпер – у межах Стоўбцаў). Дзіцячыя гады будучага пісьменніка прайшлі ў леснічоўках Ласток і Альбуць. Мемарыялізаваныя, узбагачаныя драўлянымі скульптурамі, мясціны гэтыя вядомыя на ўсё краіну, ды, відаць, і на ўвесь свет. Якуб Колас можа справядліва лічыцца летапісцам беларускага лесу – і з пункту гледжання экалагічнага, і ў плане сацыяльна-гістарычным.

Дзіця лесу ў поўным сэнсе гэтага словавызначэння – і народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін (нарадзіўся ў Кармянскім раёне ў студзені 1921 года). У сям'і зямлі было мала і пасля рэвалюцыі, таму бацька будучага пісьменніка, каб пракарміцца, ездзіў у пошуках заробку, шмат чаго пабачыў. З 1925-га Пятро Мінавіч стаў працаваць леснікам у Цярэшкавічах пад Нова-Беліцай. Праз год маці з дзецьмі вярнулася ў Карму, а ў 1927-м зноў пераехалі на новае месца бацькавай працы – у леснічоўку («стражу») пад Пясочнай Будай былога Цераховскага раёна. Пятро Шамякін працаваў леснікам у розных мясцінах усё жыццё – да 1965-га. Таму маленства і юнацтва будучага пісьменніка прайшло ў лясах...

Леснічоўка Уздымак Слуцкага раёна – радзіма перакладчыка, крытыка, публіцыста Алеся Траяноўскага (нарадзіўся ў верасні 1925 года). Бацька, Пётр Іванавіч, працаваў у Вераб'ёўскім лясніцтве Слуцкага лясгаса. А бацька празаіка Алеся Шашкова (нарадзіўся ў студзені 1923-га ў вёсцы Раманаўшчына Чашніцкага раёна) працаваў у Маскве на лесаскладзе. Паэт Віталь Карпечанка (нарадзіўся ў вёсцы Будзішча Чачэрскага раёна ў 1925 годзе) ў 1939–1941 гадах вучыўся ў Нова-Беліцкім лесатэхнічным тэхнікуме. Паэт і крытык Юрась Пацюпа – з пакалення літаратараў маладзейшых (нарадзіўся ў Полацку ў сакавіку 1965 года). Бацька, Віктар Фёдаравіч, – памочнік ляснічага. Маці, Галіна Браніславаўна, – тэхнік-лесавод.

Скончыўшы Пухавіцкую 7-годку ў 1926 годзе, на лесараспрацоўках у Лапіцкім лясніцтве працаваў празаік, дзіцячы пісьменнік, перакладчык Уладзімір Ляўданскі (1911–1973). Нарадзіўся ў вёсцы Гудавічы Чэрвеньскага раёна. І назвы кніг Ляўданскага так ці іначай (як і змест, зразумела) звязаныя з лесам, яго насельнікамі: «Адкрыццё сезону», «На прывале», «Пад старым дубам», «На беразе ракі»... У апавяданнях дзіцячага пісьменніка – вопыт яго сустрэч з лесам, вопыт паляўнічага і рыбалова. Паэт Мікола Маляўка (нарадзіўся ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна ў 1941 годзе, зямляк Якуба Коласа) працаваў на эстакадзе Петразаводскага леспрамгаса ў Карэліі. З тых 1959–1961 гадоў і засталіся ў М. Маляўкі вершы «Лесаруб», «Карэлія», «Сцёкі: з вершаў аб Карэліі», «Пісьмо ў Карэлію»...

Літаратуразнавец і крытык Уладзімір Міцкевіч (нарадзіўся таксама ў стаўбцоўскай Мікалаеўшчыне ў 1919 годзе; не толькі зямляк, але і сваяк Якуба Коласа) у 1934 годзе скончыў польскую сямігодку. І да 17 верасня 1939 года ў Заходняй Беларусі працаваў памочнікам геадэзіста ў лясах князя Радзівіла – у Акінчыцкім лясніцтве. «Лясныя» старонкі – і ў жыццяпісе паэтаў Івана Муравейкі (нарадзіўся ў вёсцы Таль Любанскага раёна ў 1921 годзе), Пімена Панчанкі (1917–1995), празаіка і фалькларыста Янкі Пачопкі (1890–1977), паэтэсы Сары Каган (1895–1941), літаратурнага крытыка Янкі Казекі (1915–2000), празаіка Івана Клімянкова (нарадзіўся ў 1947 годзе)... Відаць, гэта далёка не поўны статыстычна-краязнаўчы агляд. І тым не меней ён падаецца дастаткова цікавым і сімвалічным.

*Алесь КАРЛЮКЕВІЧ*

## Якуб Колас і «Наша Ніва»

(Пачатак у № 8)

Цяпер пяройдзем да «Нашай Нівы». Пачатак беларускай прэсы быў увесь на ахвярах і цяжкай начной працы. Паўтара году мы з Антонам Луцкевічам пісалі ад вечара да раніцы. Як мы вытрымалі гэту работу, я не разумею. Моладасць, нязломная воля і энтузіязм! Трэба было выраблiць літаратурную мову. Пазней з'явіліся памочнікі. Прыходзілі да нас, як у «Запарожскую сеч». Помню, зайшоў да нас хлапец, з выгляду падобны да клерыка, каторы адразу сеў пісаць сотні адрасоў. Піша дзень, другі, трэці... Прыклеіўся да работы. Пытаюся ў Івана, як яго прозвішча. Іван кажа: «А чорт яго ведае! – але малайчына». Аказалася, ніхто яго не ведае, а гэты малец прыклеіўся надоўга.

Так папаў да нас і «дзядзька Барадаты». Апрацоўваў матэрыял! Прыйшоў з сытым тварам, але, папрацаваўшы пару месяцаў, пабялеў, і нервы як скрыпка зрабіліся. Затое мысль, стыль зрабіўся лёгкі. «Барадаты» раніцай раз пісаў і кажа: «Я пасля абеду закончу, а цяпер бягу ў суд як сведка». Няма яго ні на абед (тры абеды мы дзялілі на пяць чалавек), ні ўвечары. Іван паляцеў разнюхаць, дзе ён дзеўся. «Барадатаму», што называецца, «пашанцавала»: тры сведкі зрабілі яго вінаватым, дастаў дзесяць гадоў ссылкі ў Сібір за с.-р. партыю... Праз месяц «Барадатага» ў кайданах павялі з партыяй на вакзал. Потым мы яму паслалі ў вокладцы кнігі «акуляры», г.зн. фальшывы пашпарт, і ён у Сібіры ажаніўся ды абсеў.

Прыбыў у рэдакцыю да нас урэшце і Якуб Колас. Далі яму адпаведную работу.

Прысылалі ў «Нашу Ніву» многа вершаў, расказаў, карэспандэнцый. Колас меў многа працы. З благіх вершаў рабіў добрыя, і местачковы вершаплёт, прачытаўшы свае вершы сваім знаёмым, дзівіўся разам з імі: якія пекныя вершы!

Колас унёс гумару ў рэдакцыю; чалавек ён быў жыццярадасны, у жыцці нашае «багемы» ўносіў у вольныя хвіліны многа вяселля.

Маладыя мае чытачы! Вашае жыццё ўсё ўперадзе. Вашая вера ў шчаслівую будучыню, яна недзе за ружовымі хмаркамі-летуценнямі, – там адкрываюцца новыя і новыя далі. Я ўжо прайшоў праз усе далі: жыццё іх мне адкрывала год за годам. Нашае пакаленне несла свае ідэалы вызвалення народаў пакрыўджаных, занядбаных, – пашанавання ўсіх цяжка працуючых на карысць не сваю, а чужую. Мае равеснікі аднадумцы клалі свае маладыя гады, сваё асабістае шчасце, сваё здароўе, сваё жыццё. Многа іх звалілася ў баразну, аддаўшы ўсе сілы да канца.

Дзе мае таварышы старыя? Большасць спіць у зямлі сырой. Праз іх трупы ідуць новыя барцы, утрымліваючыя заваяваныя папярэднікамі пазіцыі, смела імкнучыся далей – уперад. І як нашае пакаленне старалася вызваляць і дух народа з рабскае залежнасці ад чужынцаў, так і вы, маладыя, мусіце гэта рабіць і стварыць новы перыяд, які б адыграў не меншую ролю ў беларускім рэнесансе, як перыяд «нашаніўскі».

*Аляксандр УЛАСАЎ*

(Працяг. Пачатак у №№ 3–8)

## З аўтабіяграфіі

«З літаратурных твораў мацней за ўсё і раней за ўсё зрабілі на мяне ўплыў байкі Крылова... Першым беларускім творам, пра які я пачуў, быў верш Янкі Лучыны "Стары ляснік"».

**Напісана ў 1913**

«Я пачаў прабаваць і свае літаратурныя сілы, калі мне было гадоў 12. Помню, прачытаў свой верш "Вясна" (не захаваўся) свайму бацьку; бацька праслухаў мяне ўважна, потым запытаў, ці праўда, што гэта напісаў я, і даў мне рубель гасцінцу».

**Напісана ў 1926**

«Бацька ўсімі сіламі стараўся пусціць мяне ў навуку. У пятнаццаць гадоў паступіў я ў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю».

**Напісана ў 1956**

«Режим там был суровый, монастырский. Отношение наставников к воспитанникам было грубое».

**Напісана ў 1927**

«Тут вялікі ўплыў на маю паэтычную дзейнасць меў выкладчык рускай мовы Фядот Андрэевіч Кудрынскі, сам літаратар. Я пісаў вершы, напісаў цэлы сшытак баек. Па прапанове Кудрынскага сабраў шмат фальклорнага матэрыялу для яго. Разам з гэтым матэрыялам даў яму свой верш на беларускай мове. Радасна мне было пачуць ухвалу Кудрынскага і яго словы: "Вось дзе Ваша сапраўднае прызванне". Я пачаў пісаць на мове свайго народа. Але мяне засмучала ўсведамленне таго, што гэтыя вершы няма дзе апублікаваць».

**Напісана ў 1956**

## Люсіна

«Люсіна, вёска на бязлюдным Палессі, у Пінскім павеце, у Хатыніцкай воласці, паблізу Цны, мае 50 двароў, дзікая, глухая мясцовасць» (*дакумент 1884 г.*, пераклад з польскай), «Народные училища... Люсинское. Учащихся 35 мальчиков и 2 девочки. Учитель – Константин Михайлов Мицкевич...» (*з памятной книжки Минской дирекции народных училищ за 1902/1903 учебный год*. Мн., 1903. С. 46).

«Ваша Люсінская школа была маім першым настаўніцкім месцам, з якога пачалася мая дарога ў жыццё... Я вас любіў чыстым юнацкім сэрцам, хацеў дапамагчы вам знайсці лепшую дарогу ў жыццё, лепшую за тую дарогу, па якой ішлі вашы дзяды і бацькі», – пісаў Я. Колас у гэтую вёску ў чэрвені 1948 года (*Збор твораў. Т. 13*, С. 539).

Доўгі час лічылася, што ён працаваў там няпоўны год і ў жніўні 1903-га яго перавялі ў Пінкавічы. Як высветліў складальнік «З жыццяпісу Якуба Коласа» Г. Кісялёў, Я. Колас працаваў у Люсіне 2 гады, а ў Пінкавічы трапіў з 1 верасня 1904 года. Малады настаўнік не толькі выкладаў, але і запісваў тамтутэйшы фальклор, напісаў этнаграфічны нарыс «Деревня Люсин», працягваў ствараць свае вершы, пачынае чытаць нелегальную літаратуру. «У 1905 годзе я быў ужо заўзятым ворагам самадзяржаўя і ў гэтым напрамку вёў работу», – адзначаў у аўтабіяграфіі за 1956 год сам Колас.

(Працяг будзе)



Ілюстрацыя да паэмы Я. Коласа «Новая зямля», выдадзенай БФК

Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ

## Наш каляндар



Сёлета 23 студзеня споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння беларускага пісьменніка, публіцыста, грамадскага дзеяча **Фабіяна Галяравіча ШАНТЫРА**. За рэвалюцыйную дзейнасць у 1905–1907 гадах ён быў зняволены ў слуцкую турму. Працаваў хатнім настаўнікам, мулярам, прыватным адвакатам. З 1914-га ў арміі, наглядчык палявога шпіталю ў Бабруйску. Прымаў удзел у працы клуба «Беларуская хатка» ў 1916–1917 гадах. З'яўляўся ў 1917 годзе адным з лідэраў левага крыла БСГ, старшынёй Бабруйскага камітэта БСГ. Выступаў з лекцыямі, напрыклад, «Патрэбнасць нацыянальнага жыцця для беларусаў і самаадзначэння народу» (Слуцк, 1918). Працаваў загадчыкам Смаленскага аддзялення Беларускага нацыянальнага камісарыята, супрацоўнікам Слуцкага павятовага ваеннага камісарыята (1918), камісарам па нацыянальных справах Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўрада Беларусі, супрацоўнікам Мінскага губернскага ваеннага камісарыята, Асобай харчовай камісіі Заходняга фронту (1919). У распараджэнні ЦК КП(б) Літвы і Беларусі з верасня 1919 года.

У 1919–1920 гадах уваходзіў разам з А.Р. Чарвяковым і В.Г. Кнорыным у Беларускую рэдакцыйную калегію ЦК КП(б)ЛіБ, удзельнічаў у выданні газеты «Савецкая Беларусь». Аднак друкавацца пачаў яшчэ ў 1909 годзе ў газеце «Наша Ніва». Артыкулы друкаваліся ў рукапісных часопісах «Заря» і «Голос низа» (Капыль, 1910–1911; псеўд. А. Хмара, Н. Святлоў). Пісаў на беларускай, рускай і польскай мовах. Аўтар блізкіх да абразкоў-імпрэсій, пераважна бессюжэтных, рамантычных апавяданняў («Захар», 1909; «У вёсцы», «Ноч», «Пад шум лесу», 1910). У іх закранаў розныя аспекты жыцця дарэвалюцыйнай беларускай вёскі. Пісаў таксама і вершы («Да думак», 1910; «Санет», 1916), вершы ў прозе («Родны край», «У час барацьбы», 1918). У публіцыстычных артыкулах разглядаў актуальныя пытанні пашырэння асветы як умовы росту нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа («З нашага жыцця», 1910). Аўтар публіцыстычнай працы «Беларускае пытанне» (1918). Пераклаў на беларускую мову брашуру В. Лібкнехта «Павукі і мухі» (1920). Рукапісная спадчына Фабіяна Гіляравіча захоўваецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы АН Літвы (апавяданне «Пахарункі», прысвечанае пахаванню ахвяр узбунтаванай галоднай вёскі, «К волі» пра ўцёкі з турмы палітзняволенага, 1908; не публ.), ЦДАМЛіМ Беларусі, у архіве яго жонкі Зоські Верас. Частка – атрымана ў 1923 годзе Ц. Гартным ад сястры Шантыра ў Слуцку («Полымя», 1923, № 5–6, с. 62; лёс яе невядомы).

## Землякі ў свеце

# «Куды не трапяць беларусы…»

***Гэтыя словы Я. Коласа добра стасуюцца да Васіля Барысавіча Грабцэвіча, які нарадзіўся 9 мая 1950 года ў вёсцы Нядойка (Недайка) Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці.***

«А я мог і не нарадзіцца. Маці апавядала, – успамінае Васіль Барысавіч, – што, калі прыйшлі немцы ў нашу вёску Нядойка, то ўся сям'я схавалася ў падпамосці. Нямецкі салдат увайшоў у хату, падняў накрыўку падпамосця, штосьці крыкнуў па-нямецку. Усе вельмі напалохаліся, думалі, што ўсё – расстраляюць, але не кранулі нават. Канечне, у акупацыі было цяжка, жылі ўвесь час у страху. У беларускіх лясах актыўна дзейнічалі партызаны, таму немцы часта рабілі зачысткі, аблавы. Дзякуй Богу, большасці маіх сваякоў удалося выжыць. Мой дзядзька Мікалай Лявончыкаў ваяваў у чыне капітана танкавых войск. Загінуў пад Курскам. Дзед Васіль Бугрымовіч ваяваў разам з Каўпаком. Быў ваенным лётчыкам, дастаўляў розныя грузы, вывозіў параненых. Другі дзед – Сямён Грабцэвіч – прайшоў шэраговым усю вайну, былі ў яго раненні, меў шмат узнагародаў. Дзядзька Коля Шэлянкоў у чыне сяржанта прайшоў усю вайну. Дзед Іван Бугрымовіч быў у партызанах, загінуў. Мая бабуля Ксенія і бацька Барыс Грабацэвічы былі пад час вайны ў партызанах – не ваявалі, канечне, бо былі зусім юнымі, але дапамагалі, чым маглі. Маці была ў акупацыі. Ваяваў і дзядзька Пеця Грабцэвіч. У Беларусі, мабыць, усе мужчыны ваявалі – або ў рэгулярнай арміі, або ў партызанскіх атрадах.

З дзяцінства мне добра запомнілася, як мы з прадзедам Адамам Лявончыкавым ездзілі ў лес па дровы. Спачатку секлі, а потым вазілі на калясцы. Я ззаду штурхаў, амаль як у Някрасава. Вельмі любіў прадзеда, і ён адказваў мне тым жа: я быў ягоным улюбёным праўнукам… Мой самы першы сябра – Анатоль Звяртоўскі. Мы разам вучыліся. З ім можна і паразмаўляць, і памаўчаць. Ну і захапленні былі на дваіх – рыбалка, баскетбол. Мой бацька пераехаў з Беларусі ў Томск і, калі я скончыў школу, запрасіў мяне туды, каб я паступіў ў Томску ў інстытут. Лічылася, што там паступіць лягчэй. Я нядрэнна вучыўся ў школе. Чаму выбраў будаўнічы інстытут? Я па жыцці будаўнік – у дзяцінстве будаваў «партызанскія» зямлянкі, будкі розныя. Пэўна, гэта і паўплывала на выбар прафесіі. Жыццё ўдалечыні ад дому навучыла мяне перш за ўсё самастойнасці. Я ўжо казаў аб тым, што маці адна нас выхоўвала. Таму мне прыходзілася падзарабляць. А пасля заканчэння трэцяга курса я падаўся з будатрадам і зарабіў сабе на жыццё – на цэлы год. Потым на вяселле зарабіў – спецыяльна ездзіў на заробкі. Томск навучыў мяне спадзявацца толькі на сябе… У свой час быў і чэмпіёнам Томска па класічнай барацьбе».



У 1972 годзе Васіль Барысавіч заканчвае Томскі інжынерна-будаўнічы інстытут па спецыяльнасці інжынер-будаўнік, а ў наступным 1973 годзе пабраўся шлюбам з Людмілай Аляксандраўнай, якая таксама скончыла Томскі інжынерна-будаўнічы інстытут. У Томску працаваў да 1976 года – лінейным майстрам, прарабам, старшым прарабам. Першым кіраўніком быў Жан Іванавіч Кабернік (БУ № 13), які навучыў многім станоўчым чалавечым якасцям. Ён любіў паўтараць: «Мяне не цікавіць, як ты зробіш, мяне цікавіць канчатковы вынік». Яму зараз за семдзесят, але і па гэты дзень працуе ў тым жа БУ № 13, якое лічыцца адным з лепшых у Томску».

*Да гэтай публікацыі падаем, як прыгатаваць **«Кнышы»** ад Васіля Грабцэвіча. Што гэта такое? Давайце паслухаем яго самога: «Я гатую іх два разы – на Новы год і ў дзень нараджэння. Паколькі збіраюцца госці, абіраю паўвядра бульбы, надзіраю на тарцы і праз друшляк адцэджваю лішнюю вільгаць. Дадаю два яйкі і соль на смак. Асобна рыхтую мясны фарш, лепш за ўсё з паўтлустай свініны. Затым робяцца гэткія піражкі – на далонь бяру бульбу, зверху кладу фарш, а на яго – зноў бульбу. Фармую піражкі. Абсмажваю іх у алеі да ўзнікнення румянае скарыначкі. Потым складваю кнышы ў жароўню, накрываю, папярэдне паклаўшы зверху лыжку-дзве масла, і стаўлю ў духоўку на 30–40 хвілін пры тэмпературы 120 градусаў. Вельмі смачна. Раю. "Краязнаўчую газету" прашу азнаёміць чытачоў з гэтым простым рэцэптам, але які можа прынесці добры смак і вялікую радасць».*

У 1976 годзе Васіль Грабцэвіч пераязджае у «сталіцу алмазнага краю», у якуцкі горад Мірны і па 1998 год працуе ў аб'яднанні «Якуталмаз», дзе прайшоў шлях ад старшага інжынера тэхнагляду да старшага механіка аддзела капітальнага будаўніцтва (1981). Працаваў у падраднай арганізацыі «Вілюйгрэсбуд» на пасадзе галоўнага інжынера, намесніка начальніка ўпраўлення будаўніцтва, выконваў абавязкі галоўнага інжынера Упраўлення «Мірныйэнэргапрамбуд», намесніка начальніка па вытворчасці (1987).

На працягу 3,5 гадоў з 1986 па 1990-ы ён удзельнічаў у будаўніцтве аб'ектаў энергетыкі ў Рэспубліцы Куба, як старшы інжынер садзейнічаў пабудове ЦЭС «Гавана». Васіль Барысавіч успамінае: «Лічу, што тыя гады, якія былі праведзены на Кубе, былі вельмі цікавыя. Я працаваў там на будоўлі, у вольны час была магчымасць займацца спортам. З тых часоў амаль прафесійна гуляю ў валейбол. Тры разы на тыдзень былі трэніроўкі, і адзін раз гульня на выездзе. Аднойчы прымалі ўдзел у першынстве Гаваны, сярод 50–60 каманд занялі чацвёртае месца».

З 1990 года па 1998-ы Васіль Грабцэвіч – намеснік упраўляючага, галоўны інжынер Мірнінскага будаўнічага трэста ўпраўлення капітальнага будаўніцтва АК «АЛРОСА», а ў 1998-м заканчвае Акадэмію народнай гаспадаркі пры ўрадзе Расійскай Федэрацыі і атрымлівае званне «менеджэр вышэйшай катэгорыі». З 1998-га па студзень 2002 года Васіль Барысавіч працаваў першым намеснікам кіраўніка адміністрацыі Мірнінскага ўлуса Рэспублікі Саха (Якуція).

У красавіку 2002 года, калі быў сфармаваны новы ўрад Рэспублікі Саха, пасля перамогі ў прэзідэнцкіх выбарах прэзідэнта Акцыянернай кампаніі «Алмазы-Расіі-Саха» (АЛРОСА) В.А. Штырова (рускі, нарадзіўся ў 1953 г. у п. Хандыга Тампонскага раёна ЯАССР) над былым прэзідэнтам М.Я. Мікалаевым (якут, «бацька нацыі»), наш зямляк стаў намеснікам старшыні ўрада Рэспублікі Саха.

Васіль Барысавіч успамінае: «З Вячаславам Анатольевічам Штыровым я пазнаёміўся ў гады працы ў Мірным. Я тады пачынаў старшым інжынерам, а ён быў майстрам. Але гэта было як бы паралельнае жыццё. А непасрэдна ў кантакце нам давялося працаваць, калі Вячаслаў Анатольевіч зрабіўся прэзідэнтам АК «АЛРОСА». На гэтую цяперашнюю пасаду мяне запрасіў менавіта ён. Памятаю, даў мне на роздум трыццаць хвілінаў: «Праз паўгадзіны зойдзеш, скажаш аб сваім рашэнні». З ім працаваць і цяжка, і цікава. Хоць прызнаюся, не хацелася пакідаць Мірны. Да 2002 года я ў Якуцку-то быў усяго разы два. Жыў увесь час у Мірным, нават у Ленск не выязджаў».

Паверце мне, зараз наш зямляк Васіль Барысавіч – значная постаць ва ўрадзе Рэспублікі Саха. Ён курыруе такія напрамкі, як энергетыка, будаўнічы комплекс, ЖКГ, а таксама ўсё, што датычыцца пытанняў надзвычайнага характару (паводка, пажары, аварыі і г.д.). А яшчэ ён прэзідэнт федэрацыі баскетбола Рэспублікі Саха. Узнагароджаны Ордэнам Дружбы і Граматай урада Рэспублікі Саха. Ганаровы грамадзянін Тампонскага ўлуса Рэспублікі Саха.

Што датычыць Бацькаўшчыны, то Васіль Барысавіч кажа прыкладна так: «У роднай вёсцы я бываю два разы на год. Намагаюся абавязкова хоць ненадоўга выбрацца вясною, калі квітнеюць сады. І другі раз – езджу ў адпачынак. Часта прыязджаю з братам. У мяне малодшыя брат і сястра. Жывуць яны ў Рэчыцы. Дзякуй Богу, яны сямейныя, маюць сваё жыллё, гаспадарку. Брат працуе начальнікам цэха дрэваапрацоўкі, а сястра – медсястрой. Вельмі люблю іх. Нават і таму, што ў свой час быў ім за бацьку. Ён пакінуў нас, калі мне было 13 гадоў. Нам дапамагала станавіцца на ногі слаўная жанчына – наша маці. Ёй зараз 78 гадоў. Яна таксама жыве ў Рэчыцы, у яе свая хатка, садок. Яна была, ёсць і будзе малайчына, жыве на зямлі, жваванькая гэткая бабулька. Я яе вельмі люблю».

Васіль і Людміла Грабцэвічы маюць двух дачок. Старэйшая, якая жыве ў Мірным, падаравала ім двух унукаў: Рамана і Васілісу (названа ў гонар дзеда), а малодшая дачка жыве ў Маскве. Наш зямляк асібірыўся, мае пад Якуцкам уласнае лецішча, але і туды перанёс характар беларускай вёскі: вырошчвае бульбу, агуркі, памідоры ў цяпліцы, зяляніва ўсялякае. Акрамя таго, пасадзіў на лецішчы больш за дзесяць дрэваў. Сярод іх – яблыня, вішня, якія прыжыліся, глог, рабіна. Яшчэ любіць рыбалку, «асабліва сам працэс». Помніць, любіць Беларусь – родны свой куток, яго краявіды, мову і культуру, нават беларускія кулінарныя рэцэпты.

***Алесь БАРКОЎСКІ,***
***капітан-механік ц/п АС-21,***
***г. Якуцк***
***(Рэспубліка Саха)***



*Старадаўні побыт якутаў на выставе ў Якуцку*

**Ад рэдакцыі.** ***Нам было вельмі прыемна пазнаёміцца з земляком, які добра, як і іншыя беларусы задоўга да яго, прыжыўся ў Якуціі, стаўся там годным чалавекам, не цураецца Беларусі і прапагандуе наша, бацькоўска-прадзедаўскае. Параім нашым чытачам паспрабаваць тое, што тут, у нас, вядомае як дранікі, мясныя дранікі, кругляkі-каўдуны, дранка (бульбяная бабка з салам), чым наш зямляк ласуецца і частуе добрых людзей у Якуціі.***





*(Працяг. Пачатак на стар. 7)*

**Сведчанне А.М. Агейчыка.** Ужо з самога ранку на дарозе Шапялі–Мацкі–Бяларучы з'явілася калона нямецкай тэхнікі. Галаўныя машыны, не прыпыняючыся, прайшлі вёску ў накірунку Бяларуч, але раптам яны спыніліся. Не вытрымаў цяжару тэхнікі вясковы масток з бярвення, на якім сяляне вазілі дровы і сена. Некалькі танкаў паспрабавалі абыйсці перашкоду з правага боку, але гэта не атрымалася. У адзін момант за вёскай для прыкрыцця калоны немцы паставілі дзве гарматы з вялікімі жароламі (гл. карту).

Прырода паўстала супраць ворага: злева багнішча, справа багністы лес. Вось гэтым часам у поўдзень і з'явіўся ад Бяларуч нашы бамбардзіроўшчыкі. Добра «прашарсціўшы» немцаў па дарозе ад Бяларуч да Мацкоў, яны наляцелі на гэта скопішча ля мастка на выгане (танк, машына, штабны аўтобус, пять матацыклаў). На 800-метровай вышыні яны працягвалі абстрэл варожай калоны. У гэты момант немцы зрабілі некалькі стрэлаў з зенітак па самалётах. У насавой частцы галаўнога самалёта адбыўся выбух, адначасова загарэўся левы рухавік, але самалёт працягваў рухацца над калонай. Гарыць насавая і камандзірская кабіны, матор. Самалёт робіць яшчэ адзін заход на калону. Немцы б'юць і б'юць па ім з кулямётаў, аўтаматаў. Самалёт пакідае парашутыст, верагодна, Калінін. Яго, параненага ў нагу, бяруць у палон. Машына праходзіць калону, яшчэ больш нахіляецца на левае крыло і накіроўваецца да зямлі, і ў гэты час з самалёта выпадае штурман А. Бурдзенюк, за магілкамі ў Мацках. Ён ужо, відаць, быў нежывы і пасля нахілу самалёта вываліўся з адчыненай кабіны.

Тыя, каму даводзілася чытаць паказанні Вераб'ёва і Рыбаса (экіпаж вядомага самалёта), кажуць, што Гастэла аддаваў загад усім пакінуць машыну. І яму належыць апошні загад вядомаму Вераб'ёву: «Вяртацца на базу. Іду на таран». Вераб'ёў тым жа курсам адыходзіць у бок Радашковіч.

**Мадэліраванне сітуацыі.** Капітан Гастэла і штурман Бурдзенюк знаходзяцца ў самалёце адзін ад аднаго на адлегласці не больш за метр. Іх аддзяляюць дзве палоскі тонкага дзюралю. Уявіце сабе, па самалёце страляюць з гарматы, снарад разрываецца, можна сказаць, сярод лётчыкаў.

Верагодна, штурман Бурдзенюк быў адразу забіты, і пасля таго, як самалёт нахіліўся на левае крыло, ён і выпаў з кабіны. Ацалець капітану ў такіх умовах таксама было немагчыма, але самалёт яшчэ ўпэўнена трымаў курс. Хутчэй за ўсё, Гастэла быў цяжка паранены і таму загадаў Вераб'ёву вяртацца на базу. Напэўна, смерць спасцігла Гастэла раней, чым самалёт дасягнуў калоны. Выконваючы загад капітана – «парашут», стралок-радыст Калінін павінен быў пакінуць самалёт праз ніжні люк. Але паколькі тут быў замацаваны кулямёт, за якім знаходзіўся Скарабагаты (хутчэй за ўсё, нежывы), зрабіць гэтае Калінін не змог. Заставалася адно – выйсці праз верхні каўпак, які адкідваўся і праз які ён звычайна садзіўся ў самалёт.

Вераб'ёў і Рыбас бачылі выбух у самалёце збоку, у раёне нямецкай калоны. Памятаючы апошнія словы Гастэлы «Іду на таран», яны былі ўражаны смерцю камандзіра. Вайна толькі пачалася і смерць для іх яшчэ была дзівам. А пад крылом – Радашковічы. Яны і «прывязалі» гібель экіпажа на карце да гэтага населенага пункта. Яны ж не маглі ведаць, што тут пад Радашковічамі, каля вёскі Дзякшняны, на дзве гадзіны раней, за 180 метраў ад дарогі, загінуў экіпаж Маслава. Яны не маглі ведаць, што на гэтых супадзеннях будзе заблытана ўся гісторыя подзвігу двух капітанаў – Гастэлы і Маслава.

*(Заканчэнне будзе)*




*Франц Паўлавіч Гастэла чытае сям'і Указ Прэзідыўма Вярхоўнага Савета БССР аб прысваенні сыну звання Героя Савецкага Саюза*

## Сакавік



**17 – Атрыманне Віцебскам** (1597) граматы на магдэбургскае права і герба – 410 гадоў.

**20 – Хведар Жычка** (1927), паэт, перакладчык – 80 гадоў з дня нараджэння.

**21 – Мацей Стрыйкоўскі** (1547 – пасля 1590), польскі гісторык, храніст, паэт, які жыў і працаваў на тэрыторыі ВКЛ, аўтар першай друкаванай гісторыі ВКЛ «Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі» (1582) – 460 гадоў з дня нараджэння.

**25 – Альбрыхт Радзівіл** (1717, Дзятлава – пасля 1790), дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ, генерал-маёр – 290 гадоў з дня нараджэння.

**31 – Баляслаў Брэжга** (1887, Віцебская губ. – 1957), беларускі і латышскі археолаг, палеограф, гісторык, археограф, філолаг, які даследаваў гістарычныя сувязі беларусаў і латышоў, гісторыю паўстання 1863–1864 гадоў, вывучаў Полацкія летапісы, адзін з пачынальнікаў архіўнай справы на Беларусі – 120 гадоў з дня нараджэння.



***Казачны двор***

*Фота Святланы ПРАКОФ'ЕВАЙ*

## «Апошняя» цыгарэта

Аб шкодзе курэння даўно вядома ўсім. Выпіўшы чарку-другую, кожны курыльшчык ведае, як хочацца па звычцы зацягнуцца цыгарэткай. Але мала хто з людзей задумваецца аб тым, што запаленая цыгарэта можа стаць апошняй у яго жыцці, а таксама ў жыцці яго блізкіх...

Паводле статыстыкі Мінскага гарадскога ўпраўлення МНС, толькі ў сталіцы штомесяц рэгіструюцца дзесяткі пажараў і ўзгаранняў па прычыне курэння ў нецвярозым стане. Для грамадзян такія здарэнні абарочваюцца, як мінімум, закуранай кватэрай, згарэлай пасцеллю і мэбляй. Для суседзяў, жыццё якіх знаходзіцца пад пагрозай, нават невялікае ўзгаранне заканчваецца стрэсам, які, як вядома, здароўя не дабаўляе. Не кажучы ўжо, калі курэнне ў ложку прыводзіць да трагедыі. У такіх выпадках плошча гарэння невялікая, а рэчывы, якія актыўна вылучаюцца падчас гарэння пасцельных прыналежнасцяў, вельмі ядавітыя, а часам нават смяротныя для чалавека. Толькі ў Мінску за 2006 год з-за неасцярожнага абыходжання з агнём адбыўся 391 пажар, на якіх разбіўся з жыццём 41 чалавек, што складае 87 % ад агульнай колькасці загінулых на пажарах у сталіцы.

Паводле дадзеных аператыўнага ўпраўлення МНС, ужо ў студзені 2007 года адбыўся не адзін пажар па прычыне неасцярожнага абыходжання з агнём. Так, 17 студзеня ў адной з кватэр жылога дома па вул. Голубева ў выніку ўзгарання пасцельных прыналежнасцяў загінуў 56-гадовы мужчына. Прычына трагедыі – неасцярожнае абыходжанне з агнём у стане алкагольнага ап'янення.

Мінскае гарадское ўпраўленне МНС пастаянна праводзіць комплекс прафілактычных мерапрыемстваў, галоўнай мэтай якіх з'яўляецца недапушчэнне пажараў і пагібелі людзей на іх. Адным з самых дзейсных метадаў з'яўляецца выкананне элементарных мер бяспекі і ўстаноўка аўтаномных пажарных апавяшчальнікаў.

***Вольга ХВАШЧЭЎСКАЯ,***
***інспектар ЦРАНС***

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

«**ВЯЛІКАЯ ХРОНІКА**» – беларуска-ўкраінскі помнік пісьменнасці XVII ст., у якім адлюстравана своеасаблівая гістарычная энцыклапедыя эпохі барока (вядучы стыль у мастацтве канца XVI – XVIII стст.). Укладзеная па-старабеларуску ў дакладна невядомы час і месцы і мае кампіляцыйны характар. Па структуры і жанры – звод, выкананы на падставе гісторыка-літаратурных крыніц і складзены з 3-х частак: «Хронікі ўсяго свету» (на аснове даследавання польскага гісторыка М. Бельскага), «Хронікі славянарускай» і «Хронікі літоўскай і жамойцкай» (на грунце хронікі М. Стрыйкоўскага).

У 1-й частцы апісваецца далёкае мінулае чалавецтва ад «стварэння свету» да эпохі Карла Вялікага (IX ст.). 2-я частка прысвечана ўсходнеславянскай гісторыі ад заснавання Кіева да 1480 г. 3-я частка ўтрымлівае расказ пра гісторыю ВКЛ ад легендарнага князя Палемона да 1588 г. У «Вялікай хроніцы» змешчана таксама шмат розных міфаў, легенд, паданняў і літаратурных апрацовак розных гістарычных сюжэтаў; яна – не толькі звод асобных пагадовых запісаў, але і своеасаблівая анталогія тагачасных твораў гістарычнай прозы (апавесцяў пра Траянскую вайну, А. Македонскага, Кулікоўскую бітву і інш.). Існуе ў шматлікіх спісах. Большая частка тэксту «Вялікай хронікі» не апублікавана, апрача «Хронікі літоўскай і жамойцкай».

**ВЯЛІКДЗЕНЬ** (вяліканне, вялічка) – веснавое свята старажытных славян у гонар сонца, абуджэння прыроды і надыходу «вялікіх дзён» палявых работ. У залежнасці ад месячнага календара прыпадае на час ад 4 красавіка да 8 мая. Пазней царква да яго прымеркавала галоўнае хрысціянскае свята ўваскрэсення распятага Хрыста. Паводле народнага павер'я, на Вялікдзень, як і на Купалле, сонца «іграе» або «купаецца» (сонца на бясхмарным небе абяцала багаты ўраджай, шчаслівыя вяселлі). Адзначалі свята ўрачыста, пасля заканчэння доўгага посту. Сустракалі на досвітку сонца, гатавалі багата смачных страў. Галоўныя прыкметы і асаблівасць Вялікадня ў беларусаў – фарбаванне яек (пісанкі), гульня ў біткі, хаджэнне валачобнікаў і спяванне валачобных песень. Да Вялікадня былі прымеркаваныя велікодныя песні, на час яго пачыналі вадзіць веснавыя карагоды. У песнях і віταннях гаспадарам валачобнікі жадалі здароўя, плёну ў веснавой працы, прыплоду ў статку, шчаслівай долі.

«Краязнаўчая газета» выказвае шчырае спачуванне дырэктару Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа З.М. Камароўскай у сувязі з напаткалым яе горам – смерцю **мамы Лідзіі Канстанцінаўны.**

Рада дырэктараў Дзяржаўных музеяў Рэспублікі Беларусь выказвае спачуванне дырэктару Установы «Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Я. Коласа» З.М. Камароўскай з выпадку нападкалага яе гора – **смерці маці.**

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета
Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасны – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26, 234 61 62.
E-mail: kraga@tut.by

З-за абмежаванасці сродкаў выданне безганарарнае. Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, імя і імя па бацьку, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 01.03.2007.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Плутас-Маркет»: г. Мінск, вул. Кульман, 1. (Ліцэнзія ЛП № 02330/0131676 ад 30 красавіка 2004 г.)
Заказ 177
Тыраж 1450 асобнікаў.